у Бразыліі зьяўляюцца Партугальцы, якія гэтак сама, як у Злучаных Штатах англа-саксонская раса, зьяўляюцца зародкам асобнага бразыльскага народу, павялічанага яшчэ мэтысамі (партугальска-індыйскімі мяшанцамі).

Побач з Партугальцамі ўжо ў палове XIX сталецыя пачынаюць калянізаваць Бразылію грамады эмігрантаў іншых нацыянальнасьцяў, а лесьне Італьянцы і Немцы. Провінцыяй, у якой, галоўным чынам, асядалі Італьянцы быў штат Сан-Паўлё, дзе цяпер іх ёсьць каля **2-х** мільёнаў і дзе яны складаюць 60% усяго насяленьня. Гэткае вялікае італьянскае зграмаджаньне давяло да вытварэньня сэпаратыстычных тэндэнцыяў, асабліва з прычыны частых эканамічных розьніцаў паміж інтарэсамі Сан-Паўлё і іншых штатаў. Сан-Паўлё грае вялікую ролю ў палітычным жыцьці Бразыліі і часта процістаўлялася цэнтральнаму ўраду ў Рыо-дэ-Жанэйро, што было магчыма, дзякуючы фэдэралістычнаму ладу Бразыліі, якая зьяўляецца саюзам некалькіх штатаў, што маюць уласных прэзыдэнтаў і ўласныя провінцыяльныя ўрады. У сталіцы ўсяе рэспублікі Рыо-дэ-Жанэйро, зьбіраецца агульны парлямэнт і знаходзіцца фэдэральны ўрад.

Штат Сан-Паўлё найбагацейшы, таму што тут знаходзяцца сусьветна вядомыя плянтацыі кавы, якая зьяўляецца адным з галоўных вывазных бразыльскіх прадуктаў. Сталіца штату Сан-Паўлё—гэта места з 600 тысячамі насяленьня, якое адмініструецца хіба што найлепей ува ўсёй Паўднёвай Амэрыцы.

Нацыянальныя й эканамічныя розьніцы паміж Сан-Паўлё ды іншымі штатамі давялі да заўсёднае бяззбройнае барацьбы проці ўраду ў Рыо-дэ-Жанэйро і проці прэзыдэнта рэспублікі. Апошнімі часамі рэвалюцыйны настрой у Сан-Паўлё быў падбухтораны новымі прычынамі.

Некалькі гадоў назад бразыльскі фэдэральны ўрад запрасіў рознага роду загранічныя місіі дзеля арганізацыі дзяржаўнае адміністрацыі. Марская амэрыканская місія занялася марскімі справамі, француская вайсковая місія—сухапутнаю арміяю.

Нарэшце зьявілася ангельская місія, якая мела даць параду аб бюджэтнай роўнавазе. Ангельскія прапазыцыі кіраваліся да зьмяншэньня расходаў на армію і паліцыю, якой у Бразыліі вельмі шмат. Урад, слухаючы ангельцаў, пачаў звальняць са службы шмат людзей. Гэта й было тою іскраю, якая распаліла паўстаньне ў Сан-Паўлё. Грамадзяне штату Сан-Паўлё, абвясьцілі, што ўрад у Рыо-дэ-Жанэйро зьяўляецца некомпэтэнтным у справах паменшаньня арміі й паліцыі і запротэставалі проці ўмешваньня чужых місіяў у бразыльскае жыцьцё. Загарэлася паўстаньне, якое мела аканчальнаю мэтаю як быццам абвешчаньне незалежнае дзяржавы. У паўстанчыя рады ўступілі звольненыя фэдэральным урадам ваенныя, паліцыянты, а таксама мясцовыя каляністыя, сярод якіх было шмат былых італьянскіх салдатаў. Барацьба паўстанцаў з урадам была вельмі заўзятаю. Скончылася яна, паводлуг апошніх газэтных вестак, перамогаю ўраду і паражэньнем паўстанцаў.

---

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

— 2-га жніўня ваенны міністар гэн. Сікорскі прыняў у Міністэрстве Вайсковых Справаў сяброў турэцкае вайсковае місіі з гэнэралам Надзі-Пашою на чале.

— 1-га жніўня прымусова адпраўлены з Варшавы ў Стоўпцы сябры пасольства С. С. Р. Р. Казімір Кабецкі, Браніслаў Шыдлоўскі і Карусь Максімовіч. Яны скампрамітаваліся, як шпіёны.

— Міністар Працы і Грамадзкае Апекі п. Дароўскі падаў прашэньне аб адстаўцы, якая ня была прынята.

— У сувязі з увядзеньнем 10-ць гадзіннага рабочага дня ў Верхняй Сілезіі паўстаўшая там забастоўка рабочых цягнецца далей. Польскія і нямецкія прафэсыянальныя арганізацыі стварылі цэнтральны забастовачны камітэт, які мае 10 аддзелаў.

— Афіцыяльна абвешчана, што з 1-га жніўня ўва ўсёй Польшчы ўводзіцца табачны манаполь.

— У № 67 „Dziennika Ustaw" апубліканы закон 18 ліпня 1924 г. аб забесьпячэньні на выпадак безработцьця. Закон увайдзе ў сілу з 31 жніўня гэт. году.

— Кракаўскі працэс аб непарадках на вуліцах места ў лістападзе 1923 г. скончыўся апраўданьнем абвінавачаных у бунце. Засуджана толькі 6 падсудных за чыста - крымінальныя праступленьні.

— На мітынгу протэсту, скліканым у Варшаве ў мінулую нядзелю Польскаю Соцыялістычнаю Партыяю, прынята рэзалюцыя, якая трэбуе адмяніць распараджэньне аб ўвядзеньні 10 гадзіннага рабочага дня ў Верхняй Сілезіі, а таксама трэбуецца адстаўка Міністра Працы Дароўскага.

— „Nowa Reforma" ў заметцы „Рэха лістападовага працэсу" паведамляе, што ёсьць чуткі быццам усе афіцэры 3 уланскага палка замерваюцца падаць прашэньне аб звальненьні са службы.

— Газэты паведамляюць, што ў панядзелак 4-га жніўня ўвечары была перадана савецкаму паслу ў Варшаве нота па пытаньню аб нападзе на Стоўпцы.

**За граніцай.**

— Паводлуг вестак з Вены, конфлікт, які адбыўся на **грэцка - баўгарскай** граніцы, выклікаў моцнае ўзварушэньне ў Софіі і Афінах.

— 2-га жніўня адбылася рада кабінэту міністраў у **Нямеччыне** пад маршалкоўствам прэзыдэнта рэспублікі. Разглядалася галоўная проблема лёнданскай конфэрэнцыі і выпрацавана інструкцыя, як нямецкая дэлегацыя мае бараніць інтарэсы бацькаўшчыны.

— На паседжаньні **італьянскага** кабінэту міністраў Мусоліні зрабіў даклад аб лёнданскай конфэрэнцыі, пасьля чаго разглядаўся проект арганізацыі нацыянальнае міліцыі, якая мае быць арганізована на ваенны ўзор.

— У Рыме некалькі фашыстаў у форме міліцыі затрымалі савецкі самаход і прабавалі садраць чырвоны сьцяг. Самаход ехаў без пасажыраў. Паліцыя перашкодзіла фашыстам зьдзейсьніць іхні плян.

— **Эстонская** паліцыя зрабіла рад вобыскаў сярод фашыстаўскіх арганізацыяў у Рэвэлі, якія рыхтаваліся да дзяржаўнага перавароту.

— Вядомы нямецкі журналіст Грабоўскі, прыбыўшы нядаўна з С.С.Р.Р. ў Рыгу, прачытаў лекцыю аб будучым ладзе ў Расеі.

Як яму здаецца, дык уся радавая сыстэма зьяўляецца ўжо няжывою і ў будучыне адзіным дыктатарам зробіцца Троцкі.

— „Neue Freie Presse" паведамляе з Белграду, што **баўгарскі ўрад** змобілізаваў да дзейнае службы 3000 запасных салдатаў. Югаславянскі міністар загранічных справаў запротэставаў перад Антантаю проці гэтай мобілізацыі. Грэцыя як быццам таксама прылучыцца да гэтага протэсту.

---

# ШЛЯХОЦКІЯ ГОСЬЦІ.

*(Глядзі № 10 „Грам. Голасу").*

Пілі гарэлку ды закусвалі, чым хто хацеў. Усяго было на стале; была вандліна ад колькіх гадоў „вэнджаная" і такая цьвёрдая, што трудна было адкроіць кусок і ня браў нож, ня бралі і зубы, бо як падмётка.

Яно і паказна і эканомна; была і квашаніна дужа смачная, капуста тушаная і ў сьмятане, агуркі, кілбасы беларуска-шляхоцкія, шынкі, парасяты, куры, індыкі і пара штукованых салам зайцоў.

Пасьля падалі колькі вялікіх місаў крупені, варанай са сьвінінаю, калдуны, бліны, зразы і, Бог ведае, якія яшчэ прысмакі...

Пілі ды елі шляхэткі і шляхцянкі, елі ды пілі, пытаючыся патаемна пальцамі у бруха — „Ці досыць, ці яшчэ?".

Зрабілося душна ў хаце... Вокны не маглі быць адчынены, будучы на зіму і лета наглуха забітымі. Гасьцей ахапіла паркасьць ад добрага і вялікага пачастунку.

Гаспадар чакаў гэтага момэнту; ўстаў першым з-за стала і агаласіў:

— Пшэпрашам, паночкі! Чым былі багаты, тым і дзяліліся, выбачайце!

Госьці загручэлі табурэтамі, засоўгалі зэдлікамі і пачалі падходзіць да пана і паненак Чуб-Цяпілаў і дзякаваць, цалуючыся...

Чуб-Цяпілы толькі і сыпалі ў адказ: — „няма за што".

Але скончылася гэта... Сталы і іншае хлам'ё рассунулі па кутках, хата зрабілася вольнай...

Завялі грамафон (які даўно чакаў на гэта, будучы на камодзе) і пайшлі ў танец... Хату адчынілі а і сені. З падворку пацягнула халодным паветрам і асьвяжыла ўсіх; ўсе пачулі сябе жывымі, рэзвымі, вясёлымі...

Міжы іншымі скакаў старанна з Няміранкай Мамэрт, хоць мешкавата выглядаў у танцы; Уршуля паміж маладых хлопцаў была ў модзе: сам Чуб-Цяпіла крывароты з ёю скакаў Лявоніху, адкінуўшыся неяк нагамі і галавой ад яе, а таліяй прыгарнуўшыся надта блізка, твар на бок скрывіўшы, прыпяваў нешта вясёлае і моцна тупаў нагамі. Яе муж, Стаська, ціха з старым Падлубінскім гутарыў аб палітыцы.

Пані Лычкоўская раду нейкую давала пані Жарабчысе, як лячыць уздутую жывёлу...

Гаворка, шум, гвалт, грукатаньне, скокі, сьпевы, грамафоннае грыпеньне, гопканьне — цягнулася далёка за поўнач... Весела было ўсім...

Пасьля яшчэ паставілі сталы пасярод хаты і паселі, а гаспадыні прынясьлі, як было дакляравана ў запрашэньні, бліны аўсяныя з гусіным шмальцам, кісель з маслам, яблыкі печаныя з салодкім малаком.

Кожны еў добра, ня слухаючы і ня пытаючыся навет бруха, бо кожны ведаў што дамоў ужо прыдзецца ехаць; скакаць ня трэба, дык няма патрэбы і лёгкім сябе трымаць, — не адставалі у гэтым перэкананьні ад іншых і паны Лычкоускія.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Туп—туп, туп—туп... стучэлі падковамі конікі з Залычча, вязучы ў *калёсах* Мамэрта з маткай—паняй, і ў каламажцы, з-заду за імі, Уршулю з Стаськам.

Цёмна... Дождждык маленькі брызгае, часам галінкі бярэзьніку прыдарожнага сьцёбаюць седаком па тварах разгарачаных... ім гэта прыемна... Яны ўкруціўшыся дрэмлюць, качаюцца...

Пад п'яную галаву Мамэрт закіраваў каня на бок, дзе была калдобіна з вадой... Раптам... нехта вяркнуў і змоўк...

Пярэднія калёсы спыніліся... ваўтузяцца там нешта, сапуць.

Што гэта, ці не разбойнікі?!

Гэта пані-матка, дрэмлючы, занадта раскалыхалася ў бакі, дык, як конь зьвярнуў з дарогі і калёсы збочыліся, яна, як пампушка, як клубок, уся абчапана буркамі, коўдрамі і хусткамі звалілася ў калдобіну і ад перапуду вяркнула.

Саскочыў Стась, адшукаў яе напалову ў вадзе і змоклую выцягнуў; Мамэрт і Уршуля трымалі коні.

З вялікім трудом усадзілі пані-матку назад, уздыхнулі колькі разоў з прычыны гэткага няшчасьця і ехалі далей.

Колькі вёрст праехалі ціха, без здарэньня...

Туп-туп, туп-туп... конікі тупалі мерна, вязучы да Залычча сьпячых гаспадароў.

Вось вёска Азаднікі... Зьехалі ўніз з гары, праехалі мост, едуць на гару...

Раптам... што гэта? Задні конь стаў, бо напхнуўся на калёсы.

Стась запытаўся Мамэрта:

— Ну, што-ж заснуў там?!

Матка адазвалася:

— Конь з пярэдняй парай калёс неяк адчапіўся і пайшоў.

— Дык што гэта такое?—пытаўся прастрашаны Стась.

— А нічога!—спакойна казала пані-матка:

— Гэта шворан выехаў дык і асталіся... Але, дзякуй Богу, і Мамэрт ёсьць ужо!—закончыла яна, — і праўда, той прывёў-ткі каня. Стась зьлез, панатужыліся і ўшчапілі шворан на месца... Ехалі далей...

Прайшоў сон ад страху і нязвычайных здарэньняў, (а матцы-пані і холад ад макраты адзежы дакучаў).

Але вось бліснула сьвятло з вакна фальварку Залычча... Гэна стары пан Лычкоўскі пры лямпе смаркатачцы, з работніцай і парабкам адмаўляюць ружанец за шчасьлівы паварот сваіх родных.

Чу... Загручэлі на дварэ калёсы і затарабаніла каламажка.

Схамянуўся стары... Вось і яны, дзенькі Табе, Божачка! І ён, тарапліва кульгаючы, пашоў адчыняць ім дзьверы.

**А. В.**

*(Канец).*

— У **Рэвэлі** (Эстонія) арыштована 30 выдатных камуністаў, якія нібыто меліся арганізаваць шырокія дэманстрацыі ў прыбалтыцкіх краёх з прычыны дзесятых угодкаў сусьветнай вайны.

— На паседжаньні ніжняе **ангельскае** палаты парлямэнцкі сэкрэтар адміралтэйства Аліён заявіў, што ўрад замерваецца ў хуткім часе склікаць новую *міжнародную конфэрэнцыю* па пытаньню аб абмежаваньні азбраеньняў.

— „New Iork Herald" піша, што на нарадзе Пуанкарэ, Юза і Фоша, апошні заявіў аб неадмове Нямеччыны ад палітыкі рэваншу, дзеля чаго Францыя павінна, не вядучы мілітарыстычнае палітыкі, загарантаваць ўсё такі сябе ад магчымасьці нямецкага нападу.

— Паміж **Пэрсіяй і Паўночна-Амэрыканскімі Злучанымі Штатамі** ўладжаны конфлікт з прычыны забойства ў Тэгэране Амэрыканскага консуля.

— Паводлуг вестак з **Бразыліі**, ў месьце Сан-Паўлё адбываюцца вялізныя маніфэстацыі з прычыны занядьця яго ўрадовым войскам.

— 4-га жніўня выехала з Бэрліну ў Лёндан **нямецкая** дэлегацыя.

— 3-га жніўня ў **Бэрліне** падчас вулічных маніфэстацыяў з прычыны дзесятых угодкаў вайны адбыліся спатычкі паміж камуністамі і нацыяналістамі. Камуністы раскідалі рэвалюцыйныя адозвы і сьпявалі інтэрнацыянал. Занатована 300 няшчасных здарэньняў здратаваньня жанчын і дзяцей падчас завірухі.

— Ангельска-савецкая конфэрэнцыя ў Лёндане перарвалася з прычыны немагчымасьці дайсьці да паразуменьня.

— 31-га ліпня ў **Маскве** падпісаны аканчальны пратакол аб устанаўленьні граніцы паміж Польшчаю і радавымі рэспублікамі: Беларусьсю, Украінай і Расеяй.

— **Амэрыканскі** міністар Юз выехаў увечары 4-га жніўня з Бэрліна цераз Брэмэн у Амэрыку.

— У **Бэрліне** прадстаўнікі прафэсыянальных саюзаў 4. VIII. мелі нараду з міністрам працы аб ратыфікацыі вашынгтонскае конвэнцыі датычна 8 гадз. рабоч. дня.

---

# Агляд прэсы.

Нарысаваушы агульнае палажэньне справы 8 гадзіннага дня працы у Англіі і Францыі, і паказаушы на маючую адбыцца у верасьні канфэрэнцыю у Жэнэве з удзелам міністрау працы Англіі, Францыі і Нямеччыны, „Robotnik" гэтак тлумачыць сапраудныя прычыны распараджэньня п. міністра Дароускага аб 10-гадзінным дні працы у В. Сілезіі:

> Запраўдным пабуджэньнем, каторым кіраваліся прадпрыемцы — немцы, выраз якога даў у сваім распараджэньні п. Дароўскі, было тое, каб *ласьне з увагі на міжнародную вашынгтонскую конвэнцыю узмацаваць адпор прамысловага Левіатана ў Нямеччыне супроць конвэнцыі, прыйсьці з дапамогай Левіятанам у мэталевай прамысловасьці, ліцейнай і горнай у Францыі і Бэльгіі*. Адным словам загад п. Дароўскага ёсьць часткай вялікага выступленьня эўропэйскіх Левіатанаў супроць 8-гадзіннага дня працы на карысьць 10-гадзіннага.
>
> Што гэта так, даводзяць ня толькі вышэйпаданыя факты, але й спрыяньне, якое спаткаў гэты загад срод прамысловых сфэраў Польшчы. Бачаць яны ў ім пачатак да нарушэньня 8 гадзіннага работніцкага дня ўва ўсёй Польшчы і ўва ўсіх галінах працы. Толькі гэтак яны разумеюць загад п. Дароўскага.

---

„Kurjer Poranny" з прычыны дзесятых угодкау сусьветнай вайны, вынесшай Польшу на сьвет незалежнага істнаваньня, аддаецца сумным успамінам аб палажэньні польскага народу у пачатку вайны, застаушай яго у кайданох пераможнікау. Сэнтымэнтальнасьцю і людскасьцю аддаець ад гэтых успамінау гістарычнага прабегу польскім народам апошняга дзесяцілецьця да сучаснага мамэнту, калі:

> .. вярней, спакайней і пагодней можам ўжо проціставіць сябе варожым сілам, як у тых лёсавых днях, перад дзесяцьма гадамі, каторыя застаклі нас распарушаных, безбаронных, кінутых на волю лёсу.

Што яшчэ заслугоувае увагі беларуса у гэтым артыкуле, дык гэта успамін аб тых справядлівых надзеях, якія пакладау польскі народ у часе свайго заняпаду і няволі на сваю родную мову.

> ...адна з найясьнейшых і найчысьцейшых крыніц будучыны плывець праз злучаўшую нас бацькаўскую мову...

Вось у чым бачылі палякі свою будучыну і як бачым цяпер, не ашукаліся, бо пакуль „жыве мова — жыве народ".

„Echo Warszawskie" гэтак пачынае свой артыкул, пасьвечаны дзесятым угодкам сусьветнай вайны:

> Мобілізацыю розумаў праводзілі ужо перад 1914 годам, праводзілі яе ў працягу ўсей вайны і дагэтуль ня толькі не правялі моральнай дэмобілізацыі, але яшчэ горш, бо ёсьць азнакі мобілізацыі ў Нямеччыне, каб адыграцца.

Разьбіраючыся у прычынах сусьветнае вайны і большасьць іх адносячы да Нямеччыны, газэта і у сучасны момант ня відзіць тэй сілы, што магла-б забясьпечыць спакой:

> Польшча . . . патрабуе большага ліку гарманіруючых элемэнтаў, як усякае іншае гаспадарства. Мы створаны на вялікае гаспадарства, але ня маем апарату, патрэбнага імпэрыі (mocarstwu).

Прыпісаваючы вайне прычыны адраджэньня Польшчы, газэта канчае:

> Дзякуючы праклятай усюды вайне Польшча паўстала; багаславім момэнт, але глядзем, каб нам не праклінаць вайны.

---

Цікавае „пісьмо з крэсау" прыводзіць „Gazeta Warszawska" у № 209. Вось кароткія цытаты з гэтага пісьма, якімі польская прэса нас далёка ня песьціць:

> „Дай спакой, абарані нас" — вось лёзунг, што сьведчыць аб гуманітарных асновах нашых папярэднікаў, спрадвекаў сюды прыбылых...
>
> Ласьне з Беларусамі жылі мы заўсёды у традыцыйнай згодзе. Чаму?...
>
> ...шляхціц, вядучы свой племярод ад батораўскіх асаднікаў, глядзеў на зямлю не як на „гешэфт", а як на традыцыю...
>
> Што Дзьвіна ня ёсьць Расея, што Беларусь ня ёсьць Расея — гэту праўду фанатычна бараніла польская шляхта на Беларусі — шляхта Баторага. Адсюль — цесны саюз гэтай шляхты з беларускім народным рухам...

У канцы гістарычнага агляду сужыцьця польскай шляхты з беларусамі, аутор пісьма выказваецца аб сучасным стане крэсау:

> Нашто рабіць беларускую школу, калі дзеці ў ёй будуць напалову галодны? Нашто абцяжваць народ школьным прымусам, калі народ гэты занядбаны матар'яльна? Справа малазямельных нідзе не стаіць так востра, як на беларускіх

---

# ТЫПЫ ПАЛЕСЬСЯ.

### Рубежыцкая кантора.

— Што рабіць? што рабіць? — ламау сабе галаву ужо пасівеушы спраунік, седзячы у сваім габінэце за пісьменным сталом, на якім перад ім ляжала вялікая купа паперау і добры куфаль піва.

— А каб вас паляруш пабрау! — лаяуся спраунік б'ючы сабе па лысіне.

Відаць было, што перад ім стаяла заданьне ня лёгкае, бо усю галаву і твар яго пакрыу пот і колькі ён ні думау, а папера, якую ён чытау ужо з двадцаць разоу, казала ясна, калі ён, спраунік, N-скага павету, ня зьліквідуе Рубежыцкае канторы, дык яму прыдзецца падацца у адстауку, ды гэта што, а проста папера пагражае судом!

Вось на і выкусі!

Ужо дзесяты раз выходзіу дамавы стражнік, дзеля услуг?.. звацъ яго высокаблагародзіе на абед, бо *барыня* кажа, што смажанае парасе астыне, спраунік, хоць і глытау сьліну, але пасылау яго, памінаючы усіх прабабак, к чортавай *мацеры*.

Дык і гэта яшчэ так як сяк, добра было-б, але горай за усё было тое, што нават патрэт цара Аляксандра Трэцяга, які вісеу на сьцяне паміж двух вокнау над сталом, глядзеу на яго сурова і, здаецца, цар, усьмяхаючыся сабе у бараду, казау:

— Ну-с, пане палкоуніку, пакажэце сваё стараньне і здольнасьць...

Дарэмна глядзеу спраунік на патрэт, стараючыся знайсьці там выхад, але заусёды спатыкау суровы пагляд цара з усьмешкай.

Нарэшце, ня вытрымау спраунік і, моцна вылаяушыся, падняуся з крэсла і рашыу такі пайсьці паабедаць.

— Ну, і нап'юся! — прабурчау спраунік, бяручыся за клямку дзьверау. Але тутака як-бы хто яго піхнуу у бок і спраунік адвярнууся і зірнуу на патрэт цара. Што за праява?! Яму здалося, што цар кіунуу яму галавой і сказау: — Вось гэта правільна, раней выпіць, а пасьля дзела.

Але, апамятаушыся, спраунік плюнуу і вышау з габінэту...

Абед падходзіу ужо да канца, калі спрауніку далажылі, што станавы прыстау прыбыу, якраз з боку Рубежыцкае канторы.

— Ага! — зароу спраунік. — Пазваць! Згнаю! У Сыбір заганю! Разьнясу!

Праз момэнт перад ім стаяу, трасучыся як у ліхаманцы, зьбялеушы станавы з пакетам у руцэ.

— Ну? — загрымеу на яго спраунік.

— Так што, маю гонар дала...

— К чорту, к чорту! — загрымеу на яго спраунік. — А кантора, кантора як?! — роу п'яны спраунік. — Усё такі істнуе? А? істнуе?!

— Так што, пане палкоуніку, прыймау меры, але ось мала што не 23 стражнікі і 3 вураднікі забіты... лапатау станавы.

— Што, што? Забіты?—закрычау спраунік. — Гэтага яшчэ не хапала! У Сыбір! — грымнуу кулаком па стале спраунік і ускочыу на ногі.

— Зьлітуйцеся, вось рапарт, прачытайце! — залапатау сьлязьліва станавы.

— Ладно! — гаркнуу спраунік і, хістаючыся, скіраваўся у габінэт. За ім на наскох папоуз, спусьціушы галаву, станавы.

Доуга чула жонка спрауніка з габінэту грамавы бас мужа і сьлязлівы енк станавога. Часта туды насіу стражнік Аудыцкі піва, а пасьля моцнай лаянкі і памінаньня усіх кузькіных матак, зьбялеушы Аудыцкі вынес адтуль таз з запэцканай крывёю вадой. Што там было, ніхто ня ведау, бо на пытаньне пані, Аудыцкі паказау пальцам угару, ды сказау:

— Што там было — Богу ведама ды цару... толькі ось прыказана падаць гарэлкі ды добрай закускі.

Калі апошні прыказ быу споунены, голас спрауніка сьціх і жонка нават чула, як быццам нехта у габінэце з кімсь цалавауся. Яе жаноцкае сэрца трохі закалацілася, учуушы цмокі пацалункау, але думка, што у габінэце мужа, апроч станавога, нікога няма, яе супакоіла і яна пашла спаць.

— Мусіць прыйшлі да згоды, меркавала яна, і плян аб ліквідацыі Рубежыцкае канторы знайшоуся!...

У той самы час, калі спраунік з станавым прыдумоувалі пляны на зьнішчэньне Рубежыцкае канторы, у гэтай самай канторы у хаце, сярод глухога лесу, стаяу гоман, чууся рогат і сьмех.

— Ну, і дзярбалызнулі мы яго з Гаурылам па макауцы, у шартраз разьляцелася! га, га, га!

— Лоука, шчыльна зрабілі! — рагатау Дзядзёнак, праводзячы рукой па рыжай барадзе, а другою ляскаючы па плячы свайго спадручнага Галабурду.

— А коні тутака? — пытау ён.

— Тутака, — адазваліся галасы

— Добра, добра, вып'ема за спакой душ!— зарагатау Дзядзёнак і наліу у шклянкі гарэлкі.

Рубежыцкая кантора гуляла...

Уся акруга траслася ад страху перад грабежнікамі. Ня было ніводнага двара, сяла і вёскі, каб ня плаціла яна дані, калі хацелі гаспадары, каб коні іх былі цэлыя і хаты ня спалены.

**Дзяргач.**

*(Працяг будзе).*

